БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

27 кастрычніка 1994 г.
Чацвер
№ 115(13832)
Кошт у розніцу 25 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:






Малюе Віктар ДУБОВІК

Юны фермер.

Фота Валерыя БЫСАВА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Не адбяры ў дзяцей сваіх

*Сёння ў Віцебску дзейнічае пяць праваслаўных цэркваў. Акрамя гэтага, епархіяльнаму ўпраўленню перададзены шэраг будынкаў, якія з'яўляюцца помнікамі беларускага дойлідства. Тым не менш, адбываецца літаральны захоп яшчэ аднаго будынка, дзе калісьці знаходзілася мужчынская гімназія (вул.Крылова, 7).*

Там ужо робіцца алтар і пачалі праводзіцца набажэнствы, нягледзячы на тое, што на нарадзе сяброў АП "Візас", на балансе якога знаходзіцца будынак, царкве было адмоўлена ў яго бязвыплатнай перадачы.

Грамадскасць Віцебска выступіла супраць дзеянняў мясцовай епархіі і накіравала заяву Міністэрству адукацыі, Міністэрству культуры і друку, Міністэрству па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыяй, Акадэміі навук, Нацыянальнаму навукова-асветніцкаму цэнтру імя Ф.Скарыны, Камісіі па захаванню культурнай і гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета, у органы мясцовай улады. Будынак, адзначаецца ў заяве, можа і павінен належаць толькі адной катэгорыі нашага грамадства, якой усімі законамі гарантуецца ўсё лепшае, а, па сутнасці, дастаўся чарнобыльскі пыл і нястача — дзецям Беларусі.

Яўгенія ВІЦЬБА.

### Пасля самміта

*Сёння ў расійскай Дзяржаўнай Думе выступае прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін. Аналітыкі прагназіруюць ва ўсіх адносінах цяжкі дзень для крамлёўскага ўрада. Ці стане чацвер сапраўды "чорным" для Чарнамырдзіна, мы даведаемся вечарам.*

Між тым, у аўторак адбылося пасяджэнне беларускага Кабінета Міністраў з удзелам Аляксандра Лукашэнкі. Размова ішла не толькі пра вынікі нядаўняга маскоўскага самміта. Прэзідэнт выказаўся па шырокаму спектру праблем, якія тычацца стану нацыянальнай эканомікі, аспектаў сучаснага палітычнага працэсу ў рэспубліцы, закрануў шэраг пытанняў, звязаных з праблематыкай СНД.

Якаў ЯСЭПКІН.

### "Аздараўленчае" пагадненне

*Паміж Кабінетам Міністраў і Саветам федэрацыі прафсаюзаў Беларусі падпісана пагадненне аб арганізацыі аздараўлення насельніцтва ў будучым, 1995 годзе.*

Згодна з гэтым дакументам, ФПБ забяспечвае адпачынак і ўмацаванне здароўя працоўных і дзяцей, асабліва пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы. Памеры адлічэнняў на аздараўленчыя мэты са сродкаў сацыяльнага страхавання і дзяржаўнага бюджэту ўстанаўлівае ўрад.

### Яшчэ адзін дабрачынны груз

*24 кастрычніка ў Мінск у адрас Цэнтра анкапаталогіі шчытападобнай залозы 1-й клінічнай бальніцы прыбыў груз медыкаментаў з нямецкага горада Бад-Вурцах коштам 100 тысяч нямецкіх марак.*

Гэта ўжо трэцяя пастаўка гуманітарнай дапамогі з нямецкага горада ў рамках дагавора аб супрацоўніцтве з беларускім дабрачынным фондам "Дзецям Чарнобыля". Дзякуючы ініцыятыве фонду беларускія медыцынскія ўстановы ўжо атрымалі два грузы лякарстваў з Германіі на суму, якая перавышае 130 тысяч нямецкіх марак.

БЕЛІНФАРМ.

### Погляд Грамады

*Выканаўчы камітэт Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады выступіў з заявай з нагоды першых ста дзён з моманту заступлення на пасаду першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі, у якой даў негатыўную ацэнку яго дзейнасці.*

У заяве, у прыватнасці, гаворыцца, што за гэты перыяд не ўдалося ўтаймаваць інфляцыю, спыніць збядненне насельніцтва, актывізаваць барацьбу з карупцыяй і злачыннасцю. Адначасова рэзка ўзраслі цэны на прадукты харчавання, на праезд, паліва, камунальныя паслугі і гэтак далей.

Паабяцаўшы дабівацца аднаўлення парушаных сувязей, імкнуцца да інтэграцыі краін СНД, кіравацца ў знешнепалітычнай дзейнасці карэннымі інтарэсамі народа Беларусі, — падкрэсліваецца ў заяве, — прэзідэнт так і не здолеў падысці да вырашэння пытання аб забеспячэнні рэспублікі энергарэсурсамі ў асенне-зімовы перыяд. Запазычанасць перад Расійскай Федэрацыяй за энерганосьбіты перавысіла 500 мільёнаў даляраў.

(Ул.інф.).

### Моладзь мяркуе, а дзяржава...

*На працягу двух дзён у Цэнтральным камітэце Саюза Моладзі Беларусі прадстаўнікі дзяржаўных структур і грамадскіх маладзёжных арганізацый рэспублікі абмяркоўвалі праблемы навучэнскай моладзі, узаемадзеяння школьнікаў, навучэнцаў тэхнікумаў і вучылішчаў, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў з прадстаўнікамі іншых арганізацый.*

Праводзячы такое мерапрыемства, СМБ імкнуўся пашырыць кантакты з дзяржаўнымі, грамадскімі і іншымі структурамі, якія зацікаўлены ў вырашэнні праблем гэтай катэгорыі моладзі, а таксама выпрацавалі праграму сумесных дзеянняў.

Святлана КУЛІКОВА.

### Не старэе "Чырвоная зорка"

*Сваё 80-годдзе адзначыў гродзенскі кінатэатр "Чырвоная зорка" — старэйшы кінатэатр рэспублікі.*

"Зорачка", на экране якой дэманстраваліся яшчэ нямыя стужкі, і да гэтага часу захавала папулярнасць сярод аматараў кіно. І ў першую чаргу дзякуючы створанаму тут кінаклубу "Ракурс", сябры якога яшчэ ў застойныя часы мелі магчымасць знаёміцца з творамі сусветна вядомых рэжысёраў — Феліні, Бергмана, Антаніёні, Таркоўскага, Іаселіяні і многіх іншых.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Скандал з "Цівалі"

*Беспрэцэдэнтнае рашэнне прыняла Федэрацыя хакея Беларусі, выключыўшы са сваіх радоў мінскую каманду "Цівалі". Прычынай для такога суровага пакарання паслужыла запазычанасць акцыянернага таварыства "Хакейны клуб "Цівалі" за ігракоў, запрошаных ім з іншых клубаў рэспублікі.*

Цяпер у адпаведнасці з палажэннем аб чэмпіянаце рэспублікі і статутамі Міжнароднай федэрацыі хакея, членам якой з'яўляецца беларуская федэрацыя, каманда АТ "ХК "Цівалі" не можа прымаць удзелу ў нацыянальным чэмпіянаце, іншых турнірах і таварыскіх матчах унутранага календара з камандамі, якія знаходзяцца пад юрысдыкцыяй рэспубліканскай федэрацыі, а таксама быць удзельніцай міжнародных матчаў і турніраў.

Пад сумненнем застаецца і ўдзел "Цівалі" ў розыгрышы Кубка Еўропы-94.

БЕЛІНФАРМ.

### Курсы валют на 26 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6680 | 6940 | 4425 | 4608 |
| "Алімп" | 6900 | 7100 | 4650 | 4800 |
| "Дукат" | 6700 | 7100 | 4400 | 4700 |

"ПАС" — ПАЛІТЫКА-АНАЛІТЫЧНАЯ СЛУЖБА

# Кастрычніцкі мінор

☐ Якаў ЯСЭПКІН

*Непрыкметна мінулі сто дзён пасля інаугурацыі першага беларускага прэзідэнта. Калі дагэтуль крытыку Аляксандра Лукашэнкі і ягонай дзейнасці на высокай пасадзе, як і ўвогуле новай улады, можна было лічыць несуадноснай з правіламі палітычнага этыкету, цяпер, здаецца, грамадства павольна ўваходзіць у іншую фазу: крытычных заўваг зашмат. У агульнай інфармацыйнай плыні іх узаемная вага, відаць, будзе ўзрастаць і надалей.*

Хаця яўных, аб'ектыўных падстаў для такой тэндэнцыі сваімі паводзінамі Аляксандр Рыгоравіч не ствараў, ацэначны адмоўны імпульс набірае мінорную энергетыку. Хутчэй за ўсё, гэткае развіццё сітуацыйных калізій на авансцэне беларускага палітычнага тэатра не ўяўляе вялікай неспадзяванкі ў першую чаргу для нованароджанай улады. Беларусь ледзь не апошняй прыйшла да прэзідэнцтва, прычым на той стадыі эканамічнага заняпаду, ад якой да абвальных "ззяючых вышынь" крызісу дзяржаўнасці працягнута хісткая жэрдка, пад ёй, мабыць, бездань. Раней наша палітызаваная, але дастаткова памяркоўная ўладная эліта толькі назірала за працэсамі, вызначальнымі ў Расіі і іншых прэзідэнцкіх рэспубліках. Сёння ролі статыстаў адышлі ў гісторыю. Палітыкі, якія ўвайшлі ў саноўныя апартаменты, адчулі "подых навальніцы". Блуканні па іх пакоях не стануць лёгкай прагулкай і наўрад ці будуць адэкватнымі перадвыбарчым чаканням. Беларускі феномен (прыход да ўлады малавядомага ў СНД і ў свеце і не звязанага з сістэмай лідэра), безумоўна, неяк паўплывае на ход падзей, аднак няўхільных тэндэнцый не зменіць. Наадварот, не маючы доўгатэрміновай селекцыйна-сістэмнай загартоўкі, фігуры новай элітарнай групоўкі могуць апынуцца яшчэ меней абароненымі. Апроч гордзіевага вузла праблем нацыянальнай эканомікі, разблытаць які вельмі цяжка (прынамсі, такім чынам, як планавалася перад выбарамі), у разлік трэба браць шэраг лагічных і алагічных фактараў. Парламент, пераважная большасць якога ў свой час прагназіравала іншы выхад прэзідэнцкіх выбараў і ішла на іх з лёгкасцю незвычайнай, без сумненняў, не сказаў яшчэ развітальнае слова. Факт ухвалы праграмы першачарговых мер мала пра што сведчыць. Між тым ужо наступны крок Аляксандра Лукашэнкі (скасаванне "падмурка" савецкай сістэмы кіравання), спачатку таксама быццам ухвалены, выклікаў так званую запавоеную рэакцыю. Цяпер прэзідэнцкі бліц-паход на Саветы, фігуральна кажучы, пракручваецца ў паўторы, як пры здымках "рапідам". Больш чым 80 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, падпісаўшы зварот да Канстытуцыйнага суда рэспублікі, у якім выказваюць сумненне ў канстытуцыйнасці прынятых змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб мясцовым самакіраванні", зрабілі тое, што, згодна з логікай палітычнай барацьбы, і павінны былі зрабіць. Адметным, бадай, падаецца чуйнае ўзаемаразуменне ўчарашніх дый сённяшніх антаганістаў, якія ўвайшлі ў спіс 80-ці. Цікава, дарэчы, і такая факталогія: пад час галасавання ў Авальнай зале адназначную нязгоду з прэзідэнцкімі прапановамі выказалі 9 парламентарыяў, у тым ліку Станіслаў Шушкевіч, Генадзь Карпенка, Алег Трусаў, Уладзімір Заблоцкі. Можна прыгадаць нядаўні рэкламны хіт "И это только начало. АО "МММ". І гэта толькі пачатак, бо бітва за ўладу ёсць перманентная з'ява, у працэсе змаганняў усе ўдзельнікі забываюцца пра тое, што "пераможца не атрымлівае нічога". Падобныя працэсы распачаліся ў рэспубліках-суверэнах не ўчора, але сапраўды выбуховы характар яны ледзь пачынаюць набываць. І тут трэба сказаць пра тэндэнцыйную скіраванасць, таксама агульную для посткамуністычных дэмакратый.

Маскоўскі самміт у чарговы раз пацвердзіў: нельга двойчы ўвайсці ў адну ваду. Нават у ваду забыцця. Калі віскулёўскія дамоўленасці нібыта ставілі чорны крыж на чырвоным, наўрад ці дэмакратычныя ліквідатары цалкам усведамлялі, якім капіталізатарам надалейшай катастрафізацыі стане звод сціплых папер. Беларуская "славянская вязь", магчыма, і не прыйшлася даспадобы азіяцкім рэспублікам, на імгненне адчуўшым сябе пакрыўджанымі. Але большая крыўда, верагодней за ўсё, была на прабацьку. Таму марныя надзеі Гарбачова на падтрымку Азіі не спраўдзіліся. Яго прынеслі, як рытуальную ахвяру, на алтар улады. Прычым, асабліва дысанансымі падаліся тады выказванні самых лепшых "сяброў" Міхаіла Сяргеевіча. Акаеў, Назарбаеў і іншыя...Ніхто не падтрымаў першага прэзідэнта, усім ім пястун цывілізаванага Захаду мог кінуць: "І ты, Брут!" Наадварот, напрыклад, Нурсултан Абішавіч, звычайна стрыманы і прагматычна асцярожны, вымавіў над напаўжывым "львом" у сафітным бляску: хопіць нас палохаць. І не спалохаліся, пайшлі паасобку, цяпер думаюць — куды. Не сакрэт, які вектарны накірунак мае рух былой дзяржавы-казкі. Не з'яўляецца тайнай і тое, з чымі імёнамі звязваюцца катаклізмы апошняга часу. Нягледзячы на адносную легітымнасць дзеянняў познесавецкіх камуністаў-рыначнікаў, народнай ухвалы яны так і не дачакаліся. Два "зубры" прайгралі свабодныя выбары, трэці пакуль на троне. Нетэатральны трагізм у спадзяваннях на змены "пасля". Пасля Ельцына будзе Ельцын, а ў выпадку сенсацыйнага падзення на выбарах у 1996-м ці пры іншых "непрадбачаных" акалічнасцях крамлёўскага гаспадара будзе толькі горш.

Характэрна: і ўкраінскі, і беларускі прэзідэнты перамаглі, трымаючы ў руках ніяк не нацыянальна-адраджэнцкія, тым больш не нацыяналістычныя штандары. Абвяшчаліся кансалідацыйныя лозунгі. Аднак новая інтэграцыя не набліжаецца, а застаецца па-ранейшаму марай. Не бачыцца яна звышрэальнай і ў бліжэйшай перспектыве. Кучма і Лукашэнка вымушаны з магчымай адэкватнасцю рэагаваць на безліч сакраментальных эканамічных пытанняў. І Украіна, і Беларусь, якія абралі прыхільнікаў агульнаславянскага адраджэння, знаходзяцца не ў музейнай прасторы, яны рухаюцца ў зададзеным накірунку пад сонцам быцця. А самміт у Маскве адметны яшчэ адной спробай інтэграцыі. Адметны і таму, што прапанаваў ідэю Еўразійскага саюза Назарбаеў. У друку падрабязна асвятляўся ход сустрэчы, яе вынікі, удзел беларускага прэзідэнта у самміце. Таму скажам толькі пра ідэю ЕАС. На брыфінгу пасля перамоў Б.Ельцын заўважыў: пакуль рана. Аляксандр Рыгоравіч пры абмеркаванні парадку дня нарады прапанаваў чацвёртае (Еўразійскі саюз) пытанне не разглядаць, развіваць супрацоўніцтва ў рамках Садружнасці. Назарбаеў пакрыўдзіўся, іншая справа — на каго. Ідэя добрая (хто, як не Лукашэнка, які галасаваў супраць ратыфікацыі віскулёўскіх пагадненняў у нашым ВС і галасаваў у адзіноце, гэта разумее), але пакуль не рэальная. Знаёмы мінор пануе ў дзяржаўным хоры.

## ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, ЛюдмілаКАХАВЕЦ, рэдактар НаталляВАЛАКІДА.

"Суперчэннэл"

### АЗІЯЦКАЕ ТУРНЭ КЛІНТАНА

*Біл Клінтан прыбыў са сваёй жонкай у Егіпет.*

Паездка ў гэту краіну — пачатак турнэ прэзідэнта па азіяцкіх краінах. Клінтан сустрэўся з прэзідэнтам Егіпта, галоўнай тэмай перамоў з якім стала заключэнне міру паміж Ізраілем і Палесцінай. Паводле слоў амерыканскага прэзідэнта, гэты дагавор будзе важнейшай гістарычнай падзеяй. Услед за Егіптам Клінтан мае намер наведаць Сірыю, Іарданію, Кувейт, Ізраіль і Саудаўскую Аравію.

### ІЗРАІЛЬСКІ ПАРЛАМЕНТ ВЫЗНАЧЫЎСЯ

*Ізраільскі парламент падвёў вынікі дэбатаў па мірнаму пагадненню з Іарданіяй.*

105 членаў парламента выказаліся за падпісанне дагавора, 3 — супраць. Да святкавання падпісання дагавора вядзецца актыўная падрыхтоўка. Аднак насельніцтва краіны апасаецца прыхільнікаў палесцінскай тэрарыстычнай арганізацыі "Хамаз", якія, магчыма, паспрабуюць сарваць святкаванне.

"Уорлднэт"

### ААН НЕ СТРАЧВАЕ НАДЗЕЮ

*У Нью-Йорку адбыліся перамовы НАТА і ААН аб сумесных стратэгічных планах у Босніі і Герцагавіне.*

Перамовы перанесены на некалькі дзён з-за рознагалоссяў у пытанні аб паветраных дзеяннях у Босніі і Герцагавіне. Нягледзячы на гэта, ААН не страчвае надзею на вырашэнне спрэчнага пытання.

### КАРУПЦЫЯНЕРЫ ПАКІДАЮЦЬ ПАРЛАМЕНТ

*У англійскім урадзе вядзецца расследаванне фактаў карупцыі ў парламенце.*

Справа перададзена ў рукі спецыяльна створанага камітэта. Днямі ў адстаўку пайшоў абвінавачаны ў карупцыі міністр гандлю і прамысловасці Вялікабрытаніі.

"Еўраньюс"

### ІСПАНІЯ РАЗВІТВАЕЦЦА

*са сваімі грамадзянамі, забітымі ў Егіпце.*

Сёння целы забітых былі дастаўлены на радзіму. Іспанскі ўрад патрабаваў ад усіх іспанцаў, якія знаходзяцца ў Алжыры, пакінуць краіну.

"TV-5"

### БАЛЕЛЬШЧЫКІ "ПАГАРАЧЫЛІСЯ"

*Вялікай бойкай балельшчыкаў закончылася сустрэча каманд з Неапаля і Мілана на першынстве Італіі па футболу.*

Каб супакоіць фанатаў, спатрэбілася ўмяшанне паліцыі.

## ЗДАРЭННІ І КУР'ЁЗЫ

### СУТЫКНУЎСЯ З ЦЯГНІКОМ

*У Мастоўскім раёне на чыгуначным пераездзе, праігнараваўшы светлавую і гукавую сігналізацыю, вадзіцель К. з мясцовага калгаса "Дружба" спрабаваў праскочыць на аўтамашыне "КамАЗ" цераз рэйкі перад цягніком.*

У апошні момант яму не пашанцавала. Калі грузавік знаходзіўся ўжо на палатне, рухавік нечакана заглух, і машына спынілася. У выніку аварыі памочнік машыніста цеплавоза і вадзіцель з цялеснымі траўмамі змешчаны ў бальніцу.

### ЗАКІДАЕМ ЕЎРОПУ... ЗБРУЯЙ

*На 100 мільёнаў рублёў сабралася прадукцыі на Бешанковіцкай фабрыцы, якая спецыялізуецца на выпуску збруі.*

Вось ужо год як прадпрыемства працуе чатыры дні на тыдзень. Хамуты, сёдлы, іншая амуніцыя не карыстаюцца попытам ні ў наваколлі, ні ў іншых рэгіёнах Беларусі. У прадпрыемства застаўся практычна адзін спажывец — Маскоўская конная фірма.

БЕЛІНФАРМ.

### ГЕРАІНЯ НАШАГА ЧАСУ

*Неверагодны наш час! Толькі і чакаем нечага дрэннага. Многіх абставіны прывучылі быць напагатове, нікому не давяраць, што кепска ляжыць — знесці...*

Але нават у такіх абставінах час ад часу людзі робяць нешта высакароднае, добрае. Як, напрыклад, жыхарка Баранавічаў Людміла Іванаўна Асташчэнка. Выпадкова на яе вочы трапіла сумачка, а ў ёй дакументы, грошы... Амаль тыдзень жанчына патраціла, каб знайсці гаспадыню — жыхарку Брэста Л.І.Баран.

Міхась МАЛІНОЎСКІ.

### ДЫЯГНАЗ, МАГЧЫМА, ПРАВІЛЬНЫ

*Напрыканцы верасня на стол ваеннага каменданта Віцебскага гарнізона лёг рапарт ад васемнаццацігадовага салдата, які праслужыў усяго некалькі месяцаў. "Прашу вас накіраваць мяне на медыцынскае абследаванне, бо я лічу сябе псіхічна хворым чалавекам. Сёння паспрабаваў скончыць самагубствам, знаходзячыся ў камеры..." — пісаў салдат.*

Трапіў ён на гаўптвахту за п'янку. У прысутнасці камандзіра і маці, якую выклікалі ў часць, "псіхічна хворы" заявіў, што ён алкаголік, бо п'е з дванаццаці гадоў.

Яўгенія ВІЦЬБА.

### АПОШНЯЯ РАДАСЦЬ

*Надта ўзрадаваўся жыхар Маладзечна П., калі знайшоў у сваім гаражы бутэльку "Пшанічнай". Думаючы, што сын схаваў ад яго гарэлку, бацька тут жа выпіў усю паўлітроўку.*

Пра тое, што ў бутэльцы была тармазная вадкасць, П. так і не даведаўся: урачам не ўдалося выратаваць яго жыццё.

### АХВЯРА ТЭЛЕБАЧАННЯ

*Празмернае захапленне тэлебаевікамі і фільмамі жахаў зрабіла сямігадовага Васілька з Маладзечна празмерна ўражлівым.*

Аднаго разу сярод белага дня, калі хлопчык быў у кватэры адзін, ён пачуў у пад'ездзе падазроны шум. Васілёк пазваніў у міліцыю і паведаміў, што ў кватэру лезуць зладзеі. На месца адразу ж прыехала група захопу. Убачыўшы ўзброеных людзей, хлопчык вырашыў, што раней за міліцыю паспелі зладзеі. Ён зачыніў дзверы і выскачыў у акно з чацвёртага паверха.

На шчасце, усё абышлося. Васілёк застаўся жывы і нават, як расказалі медыкі, не атрымаў ніякіх фізічных пашкоджанняў. А душэўныя?

### НЯБОЖЧЫК ПАКРЫЎДЗІЎСЯ?

*Адзін з дамоў Маладзечна ледзь не ператварыўся ў крэматорый: тут загарэлася труна, у якой ляжаў нябожчык, пакінуты на нейкі час без нагляду.*

Відаць, таму было наканавана не толькі памерці, але і пасмяротна абгарэць ад дрэнна ўмацаванай свечкі.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

## 9 X 12

# Як нараджаюцца вершы

*Віктар Шніп — паэт добра вядомы. Аўтар пяці вершаваных зборнікаў. Здавалася б, і вядомасць, і колькасць кніжак — адметна сталасці. Ды Віктару нямногім больш за трыццаць. Пра паэзію, літаратуру ўвогуле, ды й пра само жыццё і ідзе гаворка з маладым паэтам.*

*— Віктар, як усё ж становяцца паэтамі... Гэта, калі жартам, а калі ўсур'ёз — з чаго пачынаўся твой шлях у паэзію, у сапраўдную літаратуру?*

— Мой шлях у паэзію пачаўся з мамінай песні. Калі мне было 9 гадоў, я вёў дзённік, куды запісваў вершы, песні, якія мне падабаліся. Мама ведала, ды і цяпер ведае шмат песень. Многія я запісаў у свой дзённік пад яе дыктоўку. Адну з песень маме ўсё не выпадала прадыктаваць і яна сказала мне: "Я ўжо столькі разоў яе табе спявала, што ты можаш запісаць яе па памяці". Доўга сядзеў над той песняй — успамінаў, а што не ўспомніў — сам зарыфмаваў. Пачытаў маме і пачуў: "Дык гэта ж не тая песня. Ты ўсё сам прыдумаў". Так нарадзіўся мой першы верш. Дакладней, другі, бо, калі мне было гады з чатыры, я прыдумаў дражнілку на суседку. За што? А за тое, што яна прагнала мяне ад студні, у якую кідаў камяні, каб даведацца ці глыбока вада. Тады ж і атрымаў першы ганарар — крапівой па голых лытках.

Свае вершы доўгі час нікуды не пасылаў, бо мне здавалася, што яны самі нейкім таемным чынам трапляюць на старонкі газет. І толькі ў 12 гадоў паслаў у "Звязду", якую мы тады атрымлівалі. Ліст укінуў у паштовую скрынку, а назаўтра раніцай мама мяне і пытае: "Куды гэта ты паслаў пісьмо?". Я не адразу прызнаўся. Але мама ўжо ўсё ведала: "Паштальёнка сказала, калі твой хлапец будзе болей пісаць пісьмы ў газету, то прыедзе міліцыя і забярэ". Я чуў пра "чорны воран" ад свайго дзеда, таму перапалохаўся і яшчэ гады тры нікуды нічога не пасылаў, я пісаў сам для сябе. Прыехаўшы ў Мінск на вучобу ў тэхнікум, зноў паслаў вершы — цяпер ужо ў "Чырвоную змену". Хутка атрымаў ад Яўгена Крупенькі адказ, у якім — запрашэнне на пасяджэнне літаб'яднання "Крыніцы". 17 жніўня 1977 года, калі мне было ўжо 17 гадоў, у "Чырвонцы" з'явіўся першы мой надрукаваны верш — "Семнаццаць мне...". Словам, лічба "17" для мяне сапраўды шчаслівая. І ўвогуле "7" - мая лічба. Дзе яна прысутнічае — там маё шчасце.

Пазней я пазнаёміўся з Рыгорам Барадуліным, якога лічу сваім настаўнікам у паэзіі. Дзякуючы Рыгору Іванавічу і пачаўся мой сапраўдны шлях у літаратуру.

Паэтам усё ж трэба нарадзіцца, а потым усё жыццё даказваць усім, што ты паэт. Паэтам стаць нельга. Паэт — гэта не трактарыст, не генерал і не касманаўт, на якіх можна вывучыцца. Але, як бы там ні было, многія становяцца паэтамі і ўсё жыццё выконваюць ролю паэта. А як толькі памруць — іх адразу забываюць не толькі чытачы, але і самі пісьменнікі.

*— Сярод адзнак тваёй творчай дарогі — прэмія імя Уладзіміра Маякоўскага, прысуджаная Саветам Міністраў Грузіі. За што такая адмеціна? За патрыятычныя вершы васьмідзесятых гадоў?..*

— У 1984 годзе мяне з паэтам Уладзімірам Маруком ад Саюза пісьменнікаў Беларусі паслалі ў Грузію на святкаванне традыцыйных Дзён Уладзіміра Маякоўскага. Я паехаў без асаблівай ахвоты. Да ўсяго трэба было ляцець на самалёце, а я ніколі дагэтуль не лётаў і, відаць, каб мяне пасылалі аднаго, я б нікуды не паляцеў. На той час у мяне быў зборнік вершаў "Гронка святла" і яго захапіў з сабой. Кожны год у час гэтых святкаванняў вызначаўся лаўрэат прэміі імя Ул.Маякоўскага. Усё гэта было сур'ёзна, і за прэміі заўсёды вялася патаемная барацьба. Прэмія была адна, а прэтэндэнтаў — паэтаў чалавек са сто з усіх рэспублік Савецкага Саюза, і, відаць, усе паэты Грузіі. Перад вяртаннем са свята кожны паэт пакідаў свае творы на суд камісіі па прэміях Ул.Маякоўскага. Пакінуў і я. У душы спадзяваўся, што ў 1985 годзе мяне зноў запрасяць на свята і дадуць прэмію. Але мяне не запрасілі ні ў 1985, ні ў 1986 годзе. Прэмію ж давалі кожны год. І вось у 1987 годзе, калі я сабраўся жаніцца, выпадкова зайшоў у СП Беларусі, мне сказалі, што ёсць тэлеграма з Грузіі, мяне запрашаюць — аднаго з Беларусі — на свята Ул.Маякоўскага. Вылятаць трэба было за дзесяць дзён да майго вяселля і вярнуцца я мог не раней, як за два дні да ўласных урачыстасцей. Паляцеў, рызыкуючы не патрапіць на ўласнае вяселле.

Паляцеў і вярнуўся... лаўрэатам прэміі імя Маякоўскага. За што далі прэмію? За "Гронку святла". А гронка святла — гэта і вінаградная гронка. Кніжку маю пераклалі на грузінскую мову, але я яе ў вочы не бачыў. "Патрыятычных" твораў у гэтым зборніку амаль не было.

*— А ўвогуле тваё стаўленне да патрыятызму ў паэзіі, у творчасці? Ці не патыхае часам ад патрыятычнай тэмы голай рыторыкай?*

— Сёння патрыятызмам у паэзіі з'яўляецца нават і тое, калі паэт піша на мове свайго народа, па-беларуску. Патрыятычныя творы абуджаюць не толькі любоў да роднай зямлі, а заклікаюць бараніць яе ад ворагаў. Але ўсё ж патрыятычныя творы, напісаныя з адных лозунгаў, — гэта не паэзія, хоць да нядаўняга часу за такія творы даваліся Дзяржаўныя прэміі і іншыя высокія ўзнагароды.

*— Віктар, ты шмат пішаш і песень. Дзеля чаго — дзеля жадання праз песню хутчэй стаць вядомым? Наколькі цяжэй напісаць песню, чым верш?*

— Не так ужо і шмат я пішу песень. Іх у мяне толькі каля 30. Сёлета напісаў, здаецца, усяго толькі тры. А тое, што праз песню лягчэй стаць вядомым — гэта сапраўды так. Дрэнны той паэт, які не хоча, каб яго ўсе ведалі.

Цяжка сказаць, што цяжэй напісаць: верш альбо песню? Цяжка ўсё, але цяжар прыемны, бо ўсё гэта творчасць.

*— Тваё стаўленне да класічнай літаратуры? Ці шмат чытаеш рускіх паэтаў? Што ёсць для цябе класічная паэзія?*

— На класічнай літаратуры ўсе мы выхоўваліся, і гэтае ад нас не забраць. На сённяшні дзень рускіх паэтаў амаль не чытаю, бо за час вучобы ў Літінстытуце на Вышэйшых літаратурных курсах я столькі перачытаў рускай паэзіі, ды і наслухаўся саміх паэтаў, што мне гэтага хопіць не на адзін дзесятак гадоў. Да ўсяго створанае Пушкіным, Лермантавым, Блокам, Ясеніным, Рубцовым, Вазнясенскім, Еўтушэнкам для мяне мае большую каштоўнасць за тысячы твораў сённяшніх паэтаў, якія толькі паўтараюць ужо даўно зробленае. І ці варта чытаць пасля вялікіх паэтаў сённяшнюю драбязу? Але я не кажу, што сярод сённяшніх з цягам часу не будзе вялікіх. Класічная паэзія — гэта ікона, ад якой не толькі святлее ў душы, але і самому хочацца тварыць.

*— У цябе і жонка — вядомая паэтка... Ці не цесна двум паэтам у адной сям'і?*

— Так, у мяне і жонка паэтка, Людміла Рублеўская. І нам не цесна ў адной сям'і, бо могуць жа жыць добра ў адной сям'і, у згодзе два інжынеры, два настаўнікі, два урачы... А чым паэты горшыя за іх?

*— Калі пісаліся вершы больш ахвотна: дзесяць гадоў назад ці сёння?*

— Ахвота пісаць вершы адна: і дзесяць гадоў назад і цяпер. Пішу, калі хочацца. Магу і ў 3 гадзіны ночы прачнуцца і нешта напісаць. Пісаць вершы — гэта не на працу хадзіць.

*— Віктар, а што ў цябе зараз на рабочым стале, калі не сакрэт? Новая кніга?*

— Нядаўна здаў у выдавецтва новую кнігу вершаў "Дванаццаць спакус". Думаю, назва гаворыць сама за сябе. А так задум многа: і для песень, і для прозы... Даў бы толькі Бог здароўя і ўдачы.

Гутарыў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## МАЙСТРЫ

Ёсць у Оршы незвычайны музей, дзе сабраны работы аднаго майстра — рэзчыка па дрэве Сямёна Сямёнавіча Шаўрова. Востры погляд, прыродны талент і любоў да працы зрабілі Сямёна Шаўрова самабытным мастаком. Ён бачыць і ведае, што можна стварыць з кожнага кавалачка дрэва. Неабходна толькі з любоўю аднесціся да яго, дакрануцца ўмелымі рукамі — і дрэва ажыве, усміхнецца або засумуе, заспявае або затанчыць створаны мастаком вобраз.

Менавіта такія работы і сабраны ў музеі драўлянай скульптуры Майстра.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.

## ІНФА-КРЫМ




**У апошні час вуліцы нашых гарадоў і аўтатрасы запаланілі інамаркі. На жаль, больш чым палова з іх наогул не маюць права з'яўляцца на дарогах Еўропы як вычарпаўшыя свой матарэсурс. Да чаго гэта прывядзе, там добра ведаюць, таму і забараняюць эксплуатацыю аўтамабіляў з 10-гадовым і больш "стажам". Але гэта ў іх. А ў нас...**

**Не так даўно ў Гомелі на аб'язной дарозе па прычыне фізічнага зносу адляцела кола ў 12-гадовага "Аўдзі". Наскочыўшы ў выніку гэтага на хуткасці больш як 120 кіламетраў у гадзіну на бетонную апору лініі электраперадач, аўтамабіль разрэзаўся папалам, быццам нажом масла, да багажніка. Пра пасажыраў гаварыць не прыходзіцца.**

**Крыху пазней "Форд" наязджае на аўтобус у цэнтры горада: двое гінуць на месцы, а адзін чалавек — у шпіталі. Прычына яшчэ высвятляецца, але папярэдне можна сказаць усё тое ж: сышоўшы тэрмін эксплуатацыі аўтамабіля.**

**Зношаныя інамаркі каштуюць за мяжой танна. Купляюць іх там часта зусім маладыя хлопцы. А потым — ганяюць на высокіх скарасцях. Вынік — вядомы.**

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

## КУР'ЕР "ЧЗ"

### ЧАРГОВЫ СЕЗОН

адкрыў Брэсцкі абласны тэатр лялек.

Падзея гэта адзначана прэм'ерай спектакля для дзяцей па п'есе Артура Вольскага "Дзед і журавель". А вечарам ужо дарослыя гледачы сустрэліся з фарсам-трагедыяй "Крэслы" Іанеска. Дарэчы, цяперашні сезон лялечнага тэатра будзе багатым на прэм'еры. Сярод іх — казка-фантазія Сідарука "Воўк і трое парасят", "Чырвоная Шапачка" Я.Шварца, "Башмачніца" Г.Лоркі, "Сямейны партрэт з пабочнай асобай" Лабазерава і іншыя.

БЕЛІНФАРМ.

### КАНТРАЛЁР ЗДАРОЎЯ

На мінскім заводзе "Транзістар" прыступілі да серыйнага выпуску універсальнага лічбавага вымяральніка артэрыяльнага ціску.

Гэты электронны прыбор, які выкарыстоўвае адзінакрышталъную мікраЭВМ, прызначаны для вымярэння артэрыяльнага ціску і частаты пульсу, прыгодны да эксплуатацыі як у медыцынскіх установах, так і ў хатніх умовах. Новы вымяральнік вельмі просты ў абыходжанні.

Вячаслаў ІШЧАНКА.

## ДЗЕЦІ І МЫ

# Ваўчаняты на сцежцы прыгод

□ Алена ХАРЫТОНАВА

*Існуе даволі банальнае сцвярджэнне, што дзеці — кветкі жыцця. Але здараецца так, што, вырастаючы, гэтыя "кветкі" ператвараюцца ў сапраўднае пустазелле. Вось дзе цяжка пярэчыць англійскаму філосафу Ф.Бэкану, які лічыў, што "ў кожным чалавеку прырода прарастае альбо злакамі, альбо пустазеллем; дык няхай ён своечасова палівае першыя і выкараняе другое".*

Існуе даволі банальнае сцвярджэнне, што дзеці — кветкі жыцця. Але здараецца так, што, вырастаючы, гэтыя "кветкі" ператвараюцца ў сапраўднае пустазелле. Вось дзе цяжка пярэчыць англійскаму філосафу Ф.Бэкану, які лічыў, што "ў кожным чалавеку прырода прарастае альбо злакамі, альбо пустазеллем; дык няхай ён своечасова палівае першыя і выкараняе другое".

Памятаеце, як некалі мы ўрачыста абяцалі "жыць, вучыцца, змагацца... "з песняй вясёлай" радасна крочылі за ВЛКСМ і чакалі, калі настане "эра светлых гадоў"... За 70 гадоў свайго існавання Усесаюзная піянерская арганізацыя выхавала вялізную колькасць юных ленінцаў. Але з часам цудоўная ідэя вырадзілася ў надзвычай заарганізаваную, нецікавую сістэму выхавання, піянеры пачалі знікаць, нібыта мухі ўвосень.

І паўстала — на ўсю шырыню ранейшай шостай часткі сушы і цяперашніх яе дробных кавалачкаў — вельмі і вельмі актуальнае пытанне: як дапамагчы падлетку цікава і карысна патраціць свой вольны час.

Не ведаеце?

А вось дзесяць тысяч беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак ужо даўным-даўно вырашылі для сябе гэтую праблему. У той час, калі далучыліся да Саюза скаўтаў Беларусі.

Многія атрыбуты і рытуалы юных разведчыкаў нагадваюць піянерскія: ёсць і гальштук, і салют, і ўрачыстае абяцанне, дэвіз "Заўсёды гатовы!" Але да "барацьбы за справу КПСС" усё гэта, вядома, не мае ніякага дачынення. Справа ў тым, што на пачатку 20-х гадоў, калі стваралася піянерская арганізацыя, Н.К.Крупская раіла пераняць некаторыя формы і метады работы з падлеткамі менавіта са скаўцкага руху. Але ягоныя ідэі і змест (рух быў апалітычным і рэлігійным) маладая савецкая дзяржава адназначна адхіліла.

Між іншым, скаўты засталіся амаль такімі ж, як і на пачатку свайго існавання. І тэкст урачыстай прысягі зусім не змяніўся. Сёння ён гучыць гэтак жа, як амаль 90 год таму: "Прысягаю маім гонарам, што зраблю ўсё, што ад мяне залежыць, каб выканаць мой абавязак перад Богам і маёй краінай; буду дапамагаць іншым ва ўсялякі час і падпарадкоўвацца скаўцкаму Закону".

Разведчыкам можна зрабіцца, маючы ўзрост ад 6 да 20 гадоў. Самыя маленькія — гэта "кабскаўты" (у перакладзе з англійскай "каб" — ваўчаня), і выхоўваюцца яны амаль так, як Маўглі ў казцы Кіплінга.

Скаўты да 15 гадоў скаўтамі і называюцца. А старэйшыя за 15 гадоў — ужо "роверы", так бы мовіць, "дарослыя скаўты". Усе хлопчыкі і дзяўчынкі ўтвараюць патрулі па 6—8 чалавек. Назва патруля адпавядае якой-небудзь прыроднай з'яве, жывёліне ці расліне. "Медзведзяняты", "вавёркі", "тыгры", "пінгвіны" — усе яны таксама скаўты. Але адлюстроўваць у назве якуюсьці палітычную з'яву строга забаронена.

Першы патруль беларускіх скаўтаў з'явіўся ў студзені 1988 года, паралельна з Усесаюзнай піянерыяй. Сёння нашыя скаўты маюць шмат сяброў па ўсёй СНД, акрамя хіба што Прыбалтыкі. Рэгулярна адбываюцца джамбры-фестывалі ("джамбры", значыць, міжнародныя), калі падлеткі праводзяць свае самыя незабыўныя дні.

І ўсё ж сістэма класічнага скаўтызму не атрымала шырокага распаўсюджання. Чаму так — тлумачыць прэзідэнт ССБ старшы скаўт-майстар Ігар Касцевіч:

— Арганізацыя скаўтаў не можа быць масавай. Гэтая сістэма выхавання ў многім выбарная, таму што ў скаўтаў ёсць вельмі акрэсленыя патрабаванні да сваіх сяброў. Перш чым зрабіцца разведчыкамі, амаль год падлеткі ходзяць у навічках. Вывучаюць родную гісторыю, замежныя мовы, псіхалогію, асновы медыцыны, авалодваюць пэўнымі турыстычнымі навыкамі, вучацца паводзіць сябе ў калектыве. Потым вытрымліваюць даволі сур'ёзныя іспыты, і толькі ў выпадку станоўчага меркавання сталых скаўтаў атрымліваюць права на Урачыстае Абяцанне... Генеральны сакратар сусветнай скаўцкай арганізацыі Жан Марыльён любіць паўтараць, што скаўты моцныя менавіта сваімі кадрамі. Таму адбор у нас вельмі строгі. Напрыклад, на 100 кіраўнікоў нашай арганізацыі — толькі 6 скаўт-майстроў. Дарэчы, адзін са скаўцкіх законаў забараняе мець аплатных функцыянераў. Працаваць у нас можна толькі па добрай волі і абсалютна бескарыслівa.

Карацей, далучайцеся да беларускіх скаўтаў. Калі вы хочаце завесці цудоўных сяброў, любіце падарожнічаць, шукаеце прыгод па-за сценамі ўтульнай кватэры і маеце шчырае, адкрытае сэрца, гэты рух — менавіта для вас.

## СТРАКАТАЯ МАЗАІКА

### ВЕЛАСІПЕД ЯК СРОДАК ДЛЯ ЗАСПАКАЕННЯ

Кіназорка нумар адзін у ЗША Мішэль Пфайфер здымае нервовыя стрэсы выключна арыгінальным спосабам: яна да апошняга вінціка разбірае свой веласіпед, потым збірае яго зноў і робіць круг па дворыку вілы. Неспакой, страх як рукой здымае. Лішніх дэталей пасля зборкі не застаецца, паколькі гэтую аперацыю Пфайфер вывучыла назубок.

### ЛЕПШАЯ КАВА — У КАТОЎ

Самая дарагая ў свеце кава каштуе 17 даляраў кубачак, а аптовая яе цана — 250000 даляраў за тону. Гэты напой рыхтуецца з зерня, вылучанага з памёту суматранскіх дзікіх катоў, якія ядуць ягады толькі самай лепшай кавы, пераварваюць абалонку, а астатняе выкідаецца ў працэсе страwавання.

### І ЯПОНСКІЯ ТАВАРЫ ЦЕРПЯЦЬ КРАХ

Наогул усё, што экспартуе Японія, ад відэатэхнікі да аўтамабіляў і калготак, хутка становіцца па-за канкурэнцыяй. Але вось з экспартам прэзерватываў японцы далі маху. Японская стандартная мадэль гэтага вырабу мае даўжыню 18 сантыметраў, што на два сантыметры карацей мадэлі еўрапейскай і паўночнаамерыканскай. Таварыства абароны правоў еўрапейскіх жанчын выказала рашучы пратэст.

### БЫЦЬ ВЫРАДКАМ НАВАТ ПРЭСТЫЖНА

Самы модны сёння дызайнер Парыжа Жан Поль Гальцье. Ён адкрыў салон, дзе прадстаўляюцца выключна ўродлівыя жанчыны. Гальцье аб'явіў сваё прадпрыемства пратэстам супраць засілля надаеўшай усім прыгажосці. Сярод яго мадэляў — вельмі тоўстая візажыстка Стэла, лысая грамадзянка з татуіроўкай на патыліцы і вельмі кіслай фізіяноміяй, Іспанская актрыса Росі дэ Пальма з носам, якому б пазайздросціў Бураціна. Жанчыны добра зарабляюць у Гальцье, дзякуючы вялікаму попыту на яго прадстаўленні.

### ЛЯЛЬКА ДЛЯ НЕРВОВЫХ

Шэрыл Карнікіс і Мэры Расел вынайшлі ляльку з нагамі, рукамі і галавой, якія адрываюцца, і апранулі яе ў форму футбольнага суддзі. Цяпер заўзятым аматарам будзе на кім зрываць сваю злосць. Канструктары ж працуюць над мадэлямі лялек-ігракоў, паліцэйскіх юрыстаў, дактароў і такіх, якія ўвасабляюць сабой агульны вобраз начальніка.

Падрыхтаваў Б.Сафроненка.




### ІНТЭРВ'Ю З МАДОННАЙ

*Поп-зорка Мадонна ў інтэрв'ю для ВВС паведаміла, што хоча мець траіх дзяцей і ўжо знайшла кандыдата на ролю бацькі і мужа, але назваць яго імя пакуль адмовілася.*

Мадонна сцвярджае, што прычына яе цяжкасцей ва ўзаемаадносінах з мужчынамі заключаецца ў тым, што ёй заўсёды прыходзіцца самой рабіць першы крок і што мужчын прывабліваюць у ёй багацце і слава.

### БЕРТ ЛАНКАСТЭР ПАМЁР

*Берт Ланкастэр, які пачынаў як цыркавы акрабат і зрабіўся ў далейшым адной з самых буйных зорак Галівуда, памёр ва ўзросце 80 гадоў ад сардэчнага прыступу.*

Чатыры апошнія гады ён адчуваў сябе вельмі дрэнна. У 1960 г. Ланкастэр атрымаў узнагароду за выкананне лепшай мужчынскай ролі ў фільме "Элмер Гэнтры". Ён зняўся больш чым у 70 фільмах, і яго кар'ера працягвалася 44 гады. Ён атрымаў велізарную вядомасць дзякуючы фільмам "Адсюль да вечнасці" і "Атлантык Сіці".

### КЛАЎДЗІА ШЫФЕР У ФАНТАНЕ

*Нямецкая супер-мадэль Клаўдзіа Шыфер у пятніцу вечарам плёскалася ў адным з самых вядомых рымскіх фантанаў — у фантане Трэві, паўтараючы сцэну з фільма Феліні "La Dolce Vita", знятым у 1960 годзе.*

У фільме ў гэтай сцэне ўдзельнічалі шведская актрыса Аніта Экберг і Марчэла Мастраяні.

На Шыфер была сукенка ад Валянціна, падобная на тую, у якім здымалася Экберг. Пад сукенкай на ёй былі гумавыя чаравікі, каб засцерагчы ногі адной з самых прыгожых жанчын свету ад халоднай вады рымскага фантана.

### СОЛА-АЛЬБОМ СЛЭША

*Гітарыст "Guns'N'Roses" Слэш толькі што скончыў запісваць свой сольны альбом.*

Слэш кажа: "Работа з "Guns'N'Roses" была і застаецца самай галоўнай для мяне. Але яны былі не гатовыя да запісу новага альбома, і таму я зрабіў гэта сам. У падобных выпадках я вельмі нецярплівы, і калі ў мяне з'яўляецца нейкая магчымасць, я імкнуся яе выкарыстаць". Слэш абвергнуў чуткі аб магчымым распадзе групы.

### КАНЦЭРТ У ДУБЛІНЕ

*Ісландскія і ірландскія музыканты вырашылі ўнесці свой уклад у ахову навакольнага асяроддзя. Група "An Emotional Fish", Лаеш О'Манолі з "The Hothouse Flowers" і Шэран Шэнан увойдуць у лік удзельнікаў канцэрта, які адбудзецца ў Дубліне ў наступную суботу.*

Арганізатары канцэрта, таварыства "GLOR" сцвярджаюць, што запланавана цэлая серыя такіх мерапрыемстваў. Перш за ўсё іх хвалюе тое, што ірландцы дыхаюць паветрам, у які трапляюць шкодныя рэчывы з Селафілдскага атамнага завода.

### КЕЙН ПАД АХОВАЙ КДБ

*Англійскі акцёр Майкл Кейн знаходзіцца пад аховай агентаў КДБ.*

Кейн вырашыў зняцца ў ролі Гары Палмера, вядомага шпіёна папулярных фільмаў 60-х "The Upcress File" і "Funeral In Berlin". Новы фільм з яго ўдзелам "Поўнач у Санкт-Пецярбургу" здымаецца ў нашай краіне. І кінабосы вельмі занепакоены тым, што Кейн можа зрабіцца ахвярай кіднепінгу разам са сваім партнёрам па фільму Джэйсанам Конеры. У сваю чаргу Кейн ахарактарызаваў агентаў КДБ як вельмі ветлівых і гасцінных хлопцаў.

### "ФАНТАЗІЯ" ПА-ЗА ФАНТАЗІЯЙ

*Нягледзячы на працяглыя спрэчкі, кінакампанія Уолта Дыснея ўсё ж заплаціла аркестру Філадэльфіі 35 мільёнаў даляраў за выкананне класічнай музыкі ў відэаверсіі фільма "Фантазія".*

Сваё нежаданне плаціць кінакампанія тлумачыла тым, што працуючы над фільмам 50 год таму, ніхто не меркаваў, што з'явіцца такая рэч, як відэа, і што відэаверсія "Фантазіі" прынясе прыбытак у 350 мільёнаў даляраў.

